ГАЛІНА
КАРЖАНЕЎСКАЯ

# МОЙ САД

ВЕРШЫ
І ПАЭМА





Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1976

* * *

Не маем права
драбнець душой
У гэткі вялікі час.
Не маем права!
Ў сабе самой
Сябе шукаю, вас —
Мае аднагодкі, мае сябры.
Зведалі ўдосталь вы,
Як раніцой халадок зары
Лезе у рукавы.
Зведалі працы гарачы ўздым,
Стомы салёны смак.
Вашы гады
і мае гады
Клопат адзін прасяк:
Толькі б не выпаў
з жыцця ні дзень
І не растаў, як снег.
Інакш — апраўданне дзе
Вам
і мне?

* * *

Яшчэ прадбачана нямнога.
Я заклапочана і строга
Гляджу у будучынь —
што там?
Непадуладнае гадам,
Юнацтва адмаўляе страх
Перад нязнаным,
перад лёсам.
Яно у сэрцы і ў вачах,
Яно ўсміхаецца
скрозь слёзы.
Мяне на ўсё жыццё сагрэўшы,
Яно гукае і вядзе
У той наступны ясны дзень,
Што ад мяне адной
залежыць.

## МОЙ САД

Саромецца не варта
Наіўных тых гадоў.
Раслі радкі упарта,
Як дзічкі ля платоў.

Цяпер пара другая:
Працую, сад саджу.
Галінкі падстрыгаю,
Выпрошваю дажджу.

Ствалы бялю
бяссоннем,
Бо не хапае дзён.
Расці, мой сад,
высокім
І людзям будзь відзён!

...Мой сад —
пачатак долі,
Непаспытаны плод.
. . . . . . . . . . . . . . . .

Пакажа восень толькі,
Які я садавод.

## ІДУ Ў ЛЯЎКІ

Ад прахалоды хваль дняпроўскіх
Па разгарачанаму дню
Праз луг — калючыя пракосы —
Іду ў Ляўкі
                        упершыню.
Праз шолах крон і ценей змову —
Скразны ліповы калідор...
(Тут ён хадзіў,
                        адшукваў словы,
Тут недзе след яго слядоў).
Праз маладзенькі сад — у вёску,
Што будзе славіцца вякі.
...Ад прахалоды хваль дняпроўскіх
У думках
                зноў
                        іду ў Ляўкі.

* * *

Прапаў без весткі.
Назаўжды прапаў.
Спаць па начах
Матулі не даваў.
Яна ж, мая бабуля, памятаю,
Расказвала свой сон
Калісь зімовай ноччу:
— І толькі ганак я пераступаю —
А ён ля ног, у шынялі,
Сыночак.
Забіты, мёртвы...
Тварам проста к небу.
Ды што з ім, дзе —
Ніхто не знае, можа...
Пасля маўчала роспачна і нема
Ды уздыхала толькі:
— Божа, божа...
А вецер рваўся ў цёмныя пакоі,
Як з клеткі звер на волю рвецца.
І я не мела сілы супакоіць
Сваё маленькае, разгубленае сэрца.

Беларусачка!
Зноў і зноў
Мне відно нараджэнне слоў —
Старажытных, як соль і хлеб,
Дарагіх,
зразумелых лепш
Ў вымаўленні твайго ратка.
Як з крыніцы малой — рака,
Так, дачка мая,
з кроплі слова
Непрыкметна пачнецца мова...
Беларусачка!
Тулю да грудзей
Прадаўжэнне сваіх надзей.

* * *

Я пачуцці хаваць
не прывучана.
Ты любоў мая, Случчына!
Да тваіх сенажацяў спелых
Я руплівай пчалой ляцела.
Даўжынёю ў гады —
дарога.
Прыпазнілася: стог ля стога.
Пазнаюць мяне ледзьве-ледзьве
Нават родныя. Нават суседзі.
Як марудна цяплеюць вочы:
— То ж Марусіна,
аграномчына.
Абступілі, гамоняць цёткі...
Усё ж пазналі.
Прызналі ўсё-ткі!

* * *

Бабулінай печы хвала
Адмысловай —
Цэнтральнай фігуры
У хаце вясковай!
Пагрэцца яна
Запрашала ахвотна
Зімой пасля снежак,
А летам — у слоту.
З паўзмрочных куткоў
І з трэшчын чарэні
Фантазій дзяціных
Вылазілі цені.
Бабулінай печы хвала!
І сягоння
Прад ёю згінаецца нехта
У паклоне.
Там шэпчуцца казкі.
Смяецца малеча.
— Падумаеш, печ!
— Я скакала... ад печы.

* * *

Ранне сыпнула гукамі.
Спаць не дало нікому
Звонам вядра, у якое
Першая бульбіна
грукнула.

Трактар трушком затросся
Ў поле,—
дзе працы многа.
З коласа, клубня, стога
Складзена наша восень;

Хмары ільнамі сцеле
Над грамадою рупнай...
Стынуць ад ветру рукі
І ад зямлі чысцеюць.

Мне ваш клопат даўно знаёмы:
Спіну разагнуць на хвіліну
І ў неба зірнуць з насцярогай,
Дзе воблакі сходы склікаюць.

Як мне блізкая ваша радасць,
Калі ў прыполе зямліцы
Бульба бялее прынадна:
Адно выбірай, не лянуйся.

Як мне рупнасць і спрытнасць да сэрца!
Увішна — аж рукі мільгаюць —
З гняздзечак заспаныя клубні
На свет выграбаюць жанчыны.

Нялёгка паспець за вамі.
Губляюся — што збіраць мне:
Ці бульбу,
ці важкія словы,
Што з душы сыпанулі раптам.

## СВЯТА

Жыццё віруе і пяе.
Жыццё гудзе, як рупны вулей.
Касцюм і лепшую кашулю
Нарэшце шафа выдае.
Запахла святам на зямлі —
Абновай, мылам і духамі.
Вось муж нязграбнымі рукамі
Сукенку жонцы зашпіліў.
Яна з ахвотай маладой
Прычоску ладзіла,
а потым
Шукала зморшчынку ля рота...
Перамяніўся ўраз пакой!
Не стала раптам іншых спраў.
Дапамагаюць дзеці спрытна.
Як свежына,
шыпела брытва
І прас спякотны астываў...
Ах, зборы, зборы!
Колькі раз
Яны кружылі нам галовы!
Сям'я да выхаду гатова.
Тэатр прыехаў у калгас.

# РАЎНАДУШНАМУ

Маўчком, не знаючы бяды,
Ляжыш у ракавіне ты —
На мелкаводдзі, у цішы.
Не ганарыся толькі марна,
Не задавайся:
                    не схавана
Ў табе
          жамчужына душы!

## ПАМЯЦІ ДЗЯДУЛІ

Так асцярожна
Зямельку ты браў у жменю,
Бы птушаня,
Якое лятаць не ўмее.
Глядзеў на яе ўважліва —
Вось гэтак глядзіць вучоны
У кнігу,
Каштоўную мудрасцю.
Сціскаў камячкі вільготныя,
І долу цяклі скрозь пальцы
Нябачныя промні сонца...

Не ведаў ніхто, дзядуля,
Што ўвосень
Сырой зямелькай
Засыплюць твае далоні
Так асцярожна.

* * *

...Што набыла я,
што згубіла?
Пераацэнкі час цяжкі.
Душы упэўненая сіла
Не хоча слухацца рукі.

Пераглядаю нетаропка,
Бы кадр за кадрам,
змену дзён:
Там адкрыццё, а тут падробка,
Вось гэта — тлум, а гэта — плён.

Усё да рэшты прыкмячаю,
Усё да рэшты —
каб пазней
Зірнула ў вочы бацьку-краю,
Не апускаючы вачэй.

## ВЯСНОВЫ ЭСКІЗ

Да бярозы зацята
Прысмактаўся збанок.
І сцяжыну ля хаты
Перабег ручаёк.

Недагледжана ў доме,—
Падступае сяўба.
Пот часцей аграномка
Выцірае з ілба,

Непакоіцца сэрцам:
Як там дзеці? Як муж?
І пралесак цяпельца
Зноў прыносіць яму.



Зак. 217

## РАНІШНІ ВЕРШ

Прамень абход свой пачынае
З пакоя,
                дзе дачка малая
Ружовай ручкай ловіць сны,
Дзе затаіўся змрок начны
І цацкі спяць.
                Там пагуляўшы,
Прамень на стол пісьмовы ляжа.
Асветліць нітачку радка
З ранейшага чарнавіка,
Заўважыць кнігі на акне,
Прымусіць жмурыцца мяне...
У поўдзень ён цікаўнай пыскай
У кубкі лезе і у міскі,
Глядзіць: бабуля дастае
Буханку,
                рэжа на стале...
Заўсёды так.
                Але з гадамі
Дачка расце.
                Сталее мама.
Але бабуля не старая
Аб маладосці уздыхае.
Усе мы новыя штодзень.
...Да новай раніцы, прамень!

## ГАЛУБКА

Знайшлі пры раскопках Пампеі
Галубкі шкілецік.
Яна
З гнязда не ўзляцела чамусьці.
На цёплыя крылы садзіўся
Гарачы
Везувія попел.
У змроку адчайныя крыкі
Успыхвалі
і прападалі.
Рабы-гладыятары беглі
На волю,
ад гібелі ў гібель.
Сенатаршы ў клунках цягнулі
Сервізы, пярсцёнкі... Навошта?
А попел, а попел, а попел
Ўсё падаў, і падаў, і падаў,
Ляцеў на жанчын і галубак,
Што дзетак закрылі сабою...

* * *

Не кажыце,
Што крыўды забудуцца,
Што няўдачы не варты увагі,
Што памылкі
Амаль неабходны,
Бо усе на памылках вучымся.
Не кажыце,
Нашто паспешнасць?
Гляньце:
Ў яблыку — колькі цяжару?
Але гнуцца галіны долу,
Можа нават зламацца каторая,
Калі яблыкаў надта многа...

* * *

У лесе галюткім,
На кусце зымшэлым
Вясновае цуда
Квітнела.
Мы цудам не спешчаны.
Цуду мы рады:
У раўнадушшы
Ўбачым спагаду,
У слабасці — сілу,
У хітрасці — розум...
Я трошкі нарвала
Галінак дзівосных.
О, як ружавелі яны
Далікатна
У шклянцы з вадою,
Здзіўляючы хату!
Як пахлі адчайна,
Аж звялі суседкі —
Пралескі на сподачку.
Слаўныя кветкі!
Убачыла маці
і войкнула:
— Выкінь!
То ж воўчае лыка!
То ж воўчае лыка —
Атрута лясная!
А я і не знала...

Абыякава
сонца аднойчы устала.
Абыякава
жонка на стол падавала.
Абыякава
вецер разгойдваў лістоту.
Абыякава
біліся пеўні ля плоту.
Абыякава
рэчка свяціла сінечай.
Абыякавы дзень. Абыякавы вечар.
Каму гэта кара? Каму?
Абыякаваму!

* * *

Дарога — як выратаванне.
За кіламетрам кіламетр,
І з кожнай хвіляй —
больш прыкмет
Маёй свабоды.
Толькі здані
Нядаўніх схільнасцей і звычак
Бягуць за мною наўздагон,
Здзіўляюць коратка, як сон,
Сваім бясхітрасным аблiччам.
А за акном — вятроў і лісцяў,
Нізін і ўзгоркаў карагод.
Для шчасця досыць аднаго:
Я — напярэдадні адкрыццяў!
І новы край мяне запоўніў,
Абшар нябачаны працяў.
І столькі сэнсу у жыцця,
Нібы жыцця пачатак сёння.

Сцяжыны ідылічныя алей.
Па сажалцы блакітна-шэрай
лебедзь
Разгульвае, ад берага далей,
І хвалі пакалыхваюцца ледзьве.

Павінен ваша вока
цешыць сад.
Дагледжаны і выпешчаны дрэўцы.
Аб крону не зачэпіцца пагляд,
Душа ад гушчару не страпянецца.

Пакошаны палянкі, як лугі.
Вам лебедзя
сучок не нагадае...
І толькі канцэнтрычныя кругі
Паказваюць, што сажалка жывая.

## ДАМОЎ

Еду да маці.
                А збоку
На дрогкім аўтобусным шкле
Абліччы дзяцей быстравокіх
З'яўляюцца,
                тонуць ў імгле,
То лес засланяюць, то поле,
То твары суседзяў знарок.
Я ў школе.
                Усё яшчэ ў школе.
Куды гэта згінуў званок?

* * *

Жнівень жніўню не раўня.
Ў залатую шыбу дня
Б'ецца вецер матылём.
За узгоркам спее гром.

Жнівень жніўню не раўня.
Спіць нябрыты старшыня,
І яму упарта сніцца
Колас выспелы. Пшаніца!

Жнівень жніўню не раўня.
Луг згалелы на каня
Узваліў апошні ўкос.
Хрумсткай хмарай едзе воз.

Горды чырванню сваёй,
Яблык вісне над зямлёй.
Набрыняла цішыня...
Жнівень жніўню не раўня!

## МНЕ ЎЯЎЛЯЕЦЦА РОСТАНЬ...

Мне ўяўляецца ростань
Полем пустым, неабсяжным,
А мы па краях процілеглых
З табой каласкі успамінаў
Старанна збіраем.
                    І страшна:
Іх робіцца меней і меней!
Іх, можа, надоўга не хопіць,
Калі не спаткаемся толькі
І поле удвух не засеем
Зярнятамі новага шчасця...
Як многа палёў
                    на планеце,
Якія засеву чакаюць!

* * *

*Жэні*

Вяла задума да ракі.
У першабытным захапленні
Стаю: кляновыя лісткі
На фоне месяца.
А цені
Затрапяталі, ажылі
Ды прабягаюць часам лёгка
І па лістах, і па зямлі.
Наскрозь прасвечаны аблокі.
Мяжа ракі і вышыні
Там непадзельна, дзе туману
Бялее покрыва... Ані
У хараstве няма падману!
Прырода стрымана маўчыць,
А дрэў навокал сілуэты,
Як сведкі гэтае начы,
Што непаўторна...
Спее лета.
Ліпнёвы хмель у галаве,
І прахалода студзіць скроні,
І ўвышыні каторы век
Паволі гойдаецца поўня.

* * *

Адышлі драбяза і тлум.
Я празрыстай і ціхай стала.
Праз мяне пралятаць святлу,
Як праз лісце,
                    што не апала,
Як праз тонкі узор галін,
Як праз ніці травы нагрэтай...
Я і восень — адзін на адзін
У ляску,
            дзе пакуль што лета.

* * *

Ніпто не выпадкова —
Ні ростань, ні сустрэча,
Ні шчырая размова.
Мы спазнаём нанова
Адушаўлёнасць рэчаў:
Тых сцен,
                    што слухаць рады,
Акон,
            што бачаць многа;
Цямнеюць іх пагляды,
А у кутках упарта
Стаілася трывога...
Які кароткі вечар!
Цень развітання ў хаце.
Самотней твар хлапечы,
І ўсе адразу рэчы
Адушаўлёнасць
                              траццяць.

...А над вяселлем хмельным,
Над гоманам сталоў
Абшарпаная скрыпка
Ўзнялася. Паглядзі:
Ўзнялася так высока,
Што тым і не дастаць,
Хто не умее слухаць
Даверлівасць смыка.
Спявала, не зважаючы
На жарты і на смех,
Аб скончаным дзявоцтве,
Аб шчасці перамен.
І плакала нявеста.
Раптоўнаю слязой
Каханага сляпіла,
Як дзень назад — усмешкай.
А гукі ўсё ляцелі
Праз папяросны дым
Ды біліся у шыбы
Са звонам, нібы птушкі:
Музыка нават вочы
Закрыў. Так бачыць лепш
І нараджэнне гука,
І маладосць сваю.

# ЛУГ І МЫ

На лузе дождж, як бусел,
Ходзіць.
Снуюць вятры,
Начуе холад,
Ляжыць дрымота пад кустамі.
А прыйдзем мы —
І гоман з намі.
Ад бегатні
І пырскаў смеху
Аж сонца скоціцца арэхам
На дно паспешлівай рачулкі.
Мы ўжо
Усплёску не пачуем,
Бо луг някошаны
Да неба
Закіне свой
Зялёны невад,
І мы
У духмяным тым палоне
З травой
Паціху
Загамонім...

# 31 ЖНІЎНЯ

У беласнежны фартушок
Апранут дзень.
Над морам кветак
Гарачыні няма ужо,
Жаўцее ліст,
смуткуе лета.
Вакол усмешкі
ды дзяцей
Гамонка, звыклая такая.
І на сцяблах
маіх надзей
Паволі
радасць расцвітае.

* * *

Напэўна, прага перамен
У кожнай [redacted] нас,
                    як зерне ў плодзе.
Дык вось чаму між звыклых сцен
Мы здавальнення не знаходзім!

Або спяшаем на вакзал,
Або касу абрэзаць рады,
Або наладжваем аўрал,
Каб чысцінёю ззяла хата.

Або камандуем мужам,
Куды калыску перанесці.
І рэпрадукцыя не там
Вісіць,
        і шафа не на месцы.

Перамясцім сюды святло.
Крыху пасунем тэлевізар.
За паўгадзіны набыло
Тваё жыццё
                другія рысы.

Але было б яно пустым,
Нібыта порхаўка старая,
Калі б не дбалі мы аб тым,
Аб чым планета сёння дбае...

Сплыло, чым жылі мы,
Што колісь злучала.
Былую сяброўку
Навошта згадала?
Знаёмы, а зараз адчужаны воблік
Праз час праглядае,
Як месяц праз воблакі.
Ах, месячны бляск,
Раўнадушны і золкі!
На вуснах маўклівыя словы
Прагорклі —
Яна іх не чуе.
...Нарэшце світае.
Знікае сяброўка.
Былая. Былая...

* * *

Дарма пражытая хвіліна
Крычыць жалобна наўздагон,
Як пакараная бязвінна.
Дарма пражытая хвіліна
Хвалюе дзень, трывожыць сон.
Няўжо я вечна чуць павінна:
Дарма пражытая хвіліна
Крычыць жалобна наўздагон?

* * *

Я не змірылася з адным:
Яшчэ учора
Ты быў паплечнікам маім,
Маёй апорай.

Патрабавальнаю была,
Ажно залішне,
Але ад першага цяпла
Цвіла, як вішня.

Яшчэ не пелі салаўі
Над ласкай нашай.
Хто ведаць мог, што на маі
Марозік ляжа?

Пайшоў.
Звычайны, не анёл,—
Няма анёлаў.
Крычала сэрца галчанём,
Упаўшым долу.

* * *

Пачынаецца восень
летам,
Калі сонцам зямля сагрэта,
Як дзіця — мацярынскім целам;
Калі ў лузе прыпару гоман,
Калі ў небе свавольства грому,
А спякота — у свеце цэлым.

Пачынаецца летам
восень,
Калі ў старшыні калоссе
Стаіць на куце, а поле
Небу вочы іржышчам коле.
Пачынаецца восень...

* * *

Год на год нанізан шчыльна —
Нітка пацеркаў на шыі.

Ўжо саромеюся мая:
У бэзе «шчасця» не шукаю.

З'ем пялёстак — дык у сэрцы
Горкі прысмак застаецца.

Не нуджуся, бо тады
Будзе болей гаркаты...

* * *

Бескампраміснасці прыкметы
Ў душы яскравей і чысцей.
Падчас
з-пад выдуманых бедаў
Ўрачысты смутак прарасце:
Гляджу вачамі невідушчымі
У дні, нібыта у вякі,
Калі абставіны вылушчвалі
Мяне з дзяцінае лускі,
Калі была адразу бачна
Паміж дабром і злом мяжа,
І толькі так, а не іначай
Магла судзіць і вырашаць.
Расла таполяй незалежнаю,
Перакананая ўсур'ёз:
Што перадумана і сцверджана,
Што варта радасці ці слёз,
Што ў марах выпешчана — тое
Заўжды жывое
і святое.

* * *

Ты ручкай засланілася ў сне —
Нібы па сэрцы ўдарыла мяне.
Так дзеці засланяліся рукамі
Ад самалётаў
з чорнымі крыжамі,
Ад грукату, ад роспачы, ад болю,
Ад несалодкай, ад сірочай долі.
Так дзеці засланяліся ад тых,
Хто лютасці сваёй
заносіў штых...
І, каб перамагчы трывогу злую,
Я локцік палахлівы твой цалую.

* * *

Дагарае вуголле у печцы і ў зрэнках.
Кліча ноч да сябе.
Не пярэч ёй — дарэмна.
Павядзе, засыпаючы словы завеяй,
Каб ва ўладзе маўчання
адчуць мы маглі,
Як сляза у лася закіпае пад вейкай,
Як зярняты ўздыхаюць
у соннай зямлі.
Будуць зоркі звінець
у аснежанай раме,
Заліваецца гармонік,
пайшоўшы наўскач.
Будуць вокны сінець,
быццам тэлеэкраны.
Навагодняя ноч —
самы ўдзячны глядач.

* * *

Цыганскай долі не спытала.
Гадалкай хвілі не была,
Калі аднойчы разглядала
Далоні, поўныя цяпла.
Палоска тонкая вось тая —
Адзнака шчасця.
Ўжо даўно
Яна намоцна нас злучае
І аб'ядноўвае ў адно.
А гэта — лініі пакуты
Бягуць, нібыта раўчукі,
І, выгінаючыся крута,
Сцякаюць некуды з рукі.
За імі — лінія удачы.
Яна, як зменлівасць сама,
Па загрубелай скуры скача:
То прамільгнецца, то няма.
Нарэшце рыска...
Дастаткова!
З яе — няроўнай, бы ралля,
І урачыста, і сурова
Ўзыходзіць
сонца мазаля.

* * *

А снег, у момант скрышаны
Клінком гарачых промняў,
Бяжыць, цячэ з узвышшаў
Нізіне у далоні.

І, як па чарапочку
Узновіць знаўца посуд,
Я аднаўляю моўчкі
З ільдзінак — моц марозу.

З расталых снежных гурбаў —
Набегі завірухі,
Што нам студзіла губы,
Што нам сплятала рукі...

...Мне болей бачыць страшна.
Заўважу — ці стрываю:
Сляды сустрэчы нашай
У небыццё сплываюць.

* * *

Заплачу я —
ты хмурыш бровы,
Пайсці спяшаешся.
—Бывай!
І вецер — ранішні, ружовы —
Услед ляціць за небакрай.

Як прыйдзеш ты з дарогі дальняй,
Збярогшы шчырае «люблю»,—
Зноў пацалунак прывітальны
Слязамі крута пасалю.

## Я ЎСЛАВІЛА Б РОСТАНЬ

Мне б уславіць яе.
Неаднойчы
Памагала пазнаць яна,
Хто жыве, хто працуе побач,
Дзе давер'е, а дзе мана.

Я уславіла б ростань
за мужнасць,
Мной здабытую не без мук,
За пяшчоту далоней мужа,
За упартасць уласных рук.

Я уславіла б ростань за бітвы
Паміж песняй і нематой
І за нораў амаль галубіны
Птушак белых —
тваіх лістоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я уславіла б ростань!
Ды ростань
Той не славіць,
Хто зведаў яе.

* * *

Над каханнем маім адзіным,
Над чародкай звычайных песень
Песня мая лебядзіная
Лётае ў паднябессі.
Над сумненнямі
                    і над страхамі,
Над пасталелай мною
Лёгкім крылом узмахвае
Мая
      лебядзіная
                    мроя.

Вышэй і далей — няспетая.
Сонейка ці завея —
Ёю мой твар
                    асветлены,
Покуль чакаць умею.

# БЯРОЗАВАЯ КАЛЫХАНКА

(П а э м а)

## УСТУП

### Споведзь мінулай вайне

Не скажу, што ты — даўніна,
Не скажу,
азірнуся перш.
Ты яшчэ не сканала, вайна,
Ты, апошняя, ўсё жывеш.
Ты у снах,
у пустых рукавах,
У маркоце удоў-бабуль.
Ты малым наганяеш страх
Экранным шаленствам куль.
Там, дзе пліты магіл маўчаць,
Там, дзе зоркі палаюць,— ты.
Праз гады
пракладаю гаць
У часіну людской бяды
Не з цікаўнасці, не таму,
Што збяднела сучаснасць, не!
Мора подзвігаў, страт і мук
Выпалосквае сэрца мне.

## I

Белы скрутачак, мой працяг,
Мне у рукі далі:
— Трымайце!
Разумееш цану жыцця,

Калі становішся маці.
Скуль бярэцца развага ў нас
І уменне прадбачыць?
Паважаеш узрост і час,
Калі становішся маці.
Паўтараю сабе самой:
Толькі шчодрасць — багацце.
Боль чужы — гэта боль твой,
Калі становішся маці.
Што надумала — трэба спець.
Шлях бацькоў
прадаўжаць мне.
Удвая ненавідзіш смерць,
Калі становішся маці...

## II

Пазвала на радзіны
Усіх суседак.
Усе гадуюць дзетак,
Усе прыйсці павінны.
Прыйшлі
і над калыскай
Схіляюцца прыветна.
У дачкі аўтарытэтна
Мае знаходзяць рысы.
За песні,
што гучэлі,
За пажаданняў лівень,
За вечар — гаманлівы
Не меней, чым вяселле,—
Была я так удзячна!
Яго і зараз бачу.
...Па матчынай парадзе
Бабулю выбіраю.


Зак. 217

Вачамі не старая
Бабуля, цётка Надзя.
Жывая, гаваркая,
Гучней за ўсіх спявае:
— Кацілася, кацілася
калодачка з печы,
Як ударыла, як ударыла
бабулечку ў плечы.
А хоць бы мяне, хоць бы мяне
калодачка ўбіла,
Але хаця б мяне, хаця б мяне
ўнучачка любіла.

Адкуль магла я ведаць
У час бяседы нашай,
Пра што яна раскажа
Аднойчы у давер'і?

III

Сцвярджаюць стала дні мае:
Падобных дзён не існуе.
Ёсць дні замораныя,
Потныя.
Дні, быццам дзеці,
Бестурботныя.
Дні задуменныя
І злыя.
Ёсць дні,
Ад шчасця залатыя...
Адны забыць адразу можам,
Другія — ў памяці выношваем
Ці з цеплынёй, ці з гэткім болем,
Што не стрывае сэрца болей.

## IV

Як вораг наляцеў упершыню —
Людзей усіх у пуню пазганялі.
Былі на крок маленькі
ад агню.
Ўсяго на крок.
Не бліжай і не да́лей.
Шчаміўся дзень
праз шчыліны сцяны.
Праклёны, плач...
Пылінак калатнеча...
Стратэгі вынішчальнае вайны —
Фашысты заспрачаліся аб нечым.
Павыбягаўшы з пуні на святло,
Ніхто не верыў
ў шчасце і у цуда,
І у жыццё,
што міг назад было
На кончыку запалкі
у іудаў.
Як у другі раз
трапілі у круг —
Загаласілі, страшнае адчуўшы.
Не стала маладзейшых:
трэба слуг
Нямеччыне,— і слуг, вядома,
дужых.
Асірацела вёсачка за дзень,
Састарылася, жнівеню не рада.
Пасыпаліся чуткі, што нідзе
Ратунку не знайсці —
блакада.
Як зноўку узраўла далечыня
Маторамі —
наступнае нашэсце,—

Была пустою вёска,
як сяўня,
Гаспадарамі кінутая ў клеці.

## V

Знаёмае нават падлеткам
(Хадзілі ў чарніцы ўпотай),
Хавала людзей
надзейна
Стайкаўскае балота.

У невялічкіх групках
Стаіліся там —
дзе дзецца? —
Мужчыны ў гадах,
кабеты,
Асобна —
матулі з дзецьмі.

Большыя — скарб няхітры
Дапамагаюць несці.
Меншыя на пагэршках
Едуць
ды просяць есці.

Толькі у Надзі рукі
Не забаляць пад вечар:
Сыну — чацвёрты месяц,
Пёрка, не чалавечак.

Курчыцца пёрка — значыць,
Пёрку ў сухое трэба.
Яго не накорміш добра,
Калі паснедаеш хлебам.

Пёрка не спіць, не плача
Нема, калі прачнецца.
Побач — старэйшых двое...
Збалелі не рукі — сэрца.

...Не сталі чакаць па хатах
Згубы.
Ўжо тыдзень цэлы
Вада па калена, мошкі,
Млеюць ад стомы целы.

Ноч адпачынак несла,
Спалі кусты і далі,
Зморана
Млечным Шляхам
Сны мацярок блукалі.

Днём жа ляцела з краю:
— Ганна, Волька,
выходзьце!
Не бойцеся,
немцы пайшлі-і-і...

Паверыла неяк старая,
Выйшла... у рогат катаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Думалі: перачакаем,
Адно б уцалелі хаты.

Думалі: перачакаем,
Вораг сюды не ткнецца.

Ён жа углыб заходзіць —
Куляй шукае сэрцы.

Так нечакана
блізка
Ён падступіў,
што страшна
Вымавіць слова ўголас:
Стрэламі смерць адкажа.

Каб не хмызняк —
прапалі б!
Бегчы жанчыны мусяць
Ціха, маўчком.
Ды раптам
Надзін малы прачнуўся...

VI

— Заплачаш —
загінем,
Загубім жанчын!
(Маленькага як вінавацІць?) —
К сабе прыціскае:
— Ты толькі маўчы,—
Калоцяцца рукі у маці.
Калыша, люляе:
— Ты толькі маўчы!
Грудзей немаўлятка
Не хоча...
А дзе ж тое выйсце?
Збавенне — у чым?
— Загубіш усіх нас, сыночак!..
І брата з сястрычкай!..
І іншых дзяцей!..
Малы застагнаў.
— Мой харошы!
Адчайная думка

Надзею гняце:
А раптам,
            а можа...

## VII

Ці ж сына яна не любіла?
Рашыла.
Прыгнула дзве тонкіх бярозы,
Вялікае хусткі рагі
                            да ствалоў
Па два прывязала —
Калыска гатова.
Дзіця палажыла,
Пацалаваўшы,
Рашыла.
Прамовілі белыя вусны:
— Паспі, мой сынок.
Я вярнуся,
Як буду жывая.
Паспі.
Загіну — даруй сваю маму,—
Заплакалі колькі з жанчын,
Астатнія вочы хавалі:
«Што будзе? А я ці змагла б...»
Пабеглі.
Застаўся малы
Адзін у калысцы пахілай.
Ці ж сына яна не любіла?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хто наша стагоддзе пракляў?
Хто мукай пякельнай
Яго ўзнагародзіў, завошта:
Фашызм парадзіць

І цаною мільёнаў ахвяр
Яго ж падсячы
Пад атрутлівы корань?

## VIII

Гучала пяшчотна і нема
Бярозавая калыханка:
— Хай цябе ўберажэ неба
Ад хмары ліхой, Іванка.
Хай вецер цябе люляе,
Не горш,
чым сястра ці брацік,
Пагойдвае: баю-баю,
Усцішвае: спаці, спаці...
Хай лісце ад воч закрые
І ад шалёнай кулі.
Няхай
не пабудзяць крыкі,
Няхай
не загіне матуля.
Няхай табе сонца косы
Апусціць
пазабаўляцца...
Ты некалі будзеш дарослым,
Спазнаеш любоў і працу.
Нямнога ад нас залежыць,
У цябе і папросім мала:
Зрабі з нас
калыску лепшую
Для сына —
каб лепш спявала.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як добра, што вы не чулі
Бярозавую калыханку!

## IX

Калі задыхаўшыся бегла
І беглі купіны з-пад ног,
Калі за вопратку і цела
Чапляліся і бруд, і мох,
Калі вада
                пялёнкай ржавай
Дзяцей хацела атуліць,
Калі балота, як істота,
Крычала кожнай клеткай:
                                        «Жыць!»
Калі ў дачкі слабелі ручкі
І аддаляўся стрэлаў гул,
Калі упала у знямозе
Сама
          са стогнам: «Не магу...»
Калі жанчыны памагалі
Устаць
            і, слабую, вялі —
Тады вось гэта адбылося
(Бярозы сведкамі былі).

## X

Сінява.
            Залатыя восы...
Разамлелы арыец крочыць.
Гэтак добра, ажно здалося:
Ён не тут,
                а ў сваім садочку —
Дрэвы росныя, кветкі, промні...
О, мой бог, цішыня якая!
Гэтак добра. Навошта помніць,
Што зямля навакол чужая?
Ды фашыст спахапіўся: млосна

Па балоце у спёку тупаць.
Хто гамак зрабіў на бярозах?
Аддзяліўся цішком ад групы.
Падышоў ён, рассунуў вецце —
І заблытаўся ў лісці воклiч:
Можа, гэта яму здаецца —
Дзіцянё з сінявой у вочках!
Ручкай ловіць лісток, смяецца,
Адпіхае пялёнку ўвішна.
Паглядзеўшы з хвіліну, немец
Да сябе не паклікаў іншых.
Нерашуча скрануўся, потым
Рушыў ён даганяць зграю.
Пужала чужое балота,
Пагражала
зямля чужая.

## XI

Сціхла ўсё. Звечарэла.
Паснулі дзеці.
Небяспекай і стомаю
Змучаны целы.
Неспакойна:
Каб вярнулася толькі Надзея,
Па сына,
Бы ка́ня на крык птушанят,
Паляцела.
Зорка ноч насцярожыла,
Быццам ракета.
Вольха зашалясцела,
Вада забулькала...
Ваеннае,
Трэцяе,
Чорнае лета
Старыла заўчасна,

Рабіла бабулямі.
...Нарэшце ідзе.
Пачулі здалёку:
Дзіця захліпаецца
У крыку галодным.
На купіну села,
Уздыхнула Надзея з палёгкай
І, не ўтрываўшы,
Ціха заплакала потым.
Сына хутчэй спавіла,
Пакарміла.
Нічога жанчыны не сталі пытацца.
— Цётачка, годзе!
Не плачце, мілая!
Меншаму, Ваню,
Далёка за дваццаць!..

## XII

Перажылі навалу,
Перажылі — не ўсе.
Пакідалі балота памалу,
З апаскаю,
пакрысе.
Зямлянку адны збудавалі
На ўскраі, а хто пайшоў
Да сваякоў, падалей.
Старэйшыя — ў вёску, дамоў;
У куточак,
найлепшы ў свеце,
Дзе ўнукаў цяпер сляды
На выгане студзіць вецер;
Дзе век свой зжылі —
туды.
І Надзя рашыла цвёрда
Вярнуцца да той зямлі...

У радасным сорак чацвёртым
Сухоты дачку ўзялі.
Іванка хварэў раз-пораз.
Жахлівыя сны ў яе:
Па сына бяжыць,
                а бярозы
Далей, і далей, і далей...
Муж-партызан вярнуўся.
Насуперак снам усім
Бярозы стаяць у скрусе,
Бярозы ў душу
                ўраслі...

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

### Споведзь вайне, якой не павінна быць

Каб жыла я
Не ў нашых трывогах,
А ў заўтрашнім дні планеты,
І ў архіве, дзе цені мінулага
Спрасаваны
Цяжарам часу,
Я знайшла б дакумент аднойчы
Пра здарэнне
Ля вёскі Стайкі,
На Лагойшчыне, у Беларусі —
Ён адзін паказаць бы здолеў
Усю вайну
(Бо асколак люстра
Уласцівасці люстра мае).
...Хто там цэліць
У сэрца маёй дачкі?
Можа, тыя, хто калісь
На дзяцей,

На жанчын бяззбройных
Палявалі ў балоце топкім?
Мне туды не зайсці
Ні ў сне, ні наяве —
Буракі, як глякі,
Вырастаюць на торфе.
Мне туды не зайсці
Ні адной і ні з цёткай —
Дзе вада зелянела,
Разорваюць бульбу.
Тых бяроз не знайду,
Што спявалі Іванку
Сваю калыханку...
А ён жа ўтрымацца не можа
Ад легкадумнага жарту:
— Мама, а ты ўпэўнена,
Што малога твайго ў балоце
Не замяніў ніхто?
Крыўдзіцца цётка Надзя.
Яна, я ўпэўнена,
Першая
Паставіла б подпіс свой
Пад прысудам табе,
Вайна.

ЗМЕСТ

Каржанеўская Г.

К 22 Мой сад. Вершы і паэма. Мн., «Маст. літ.», 1976.

64 с.

Другую кнігу маладой паэтэсы склалі лірычныя вершы аб чысціні чалавечых адносін, аб прыгажосці роднай зямлі. У канцы кнігі змешчана паэма «Бярозавая калыханка», прысвечаная тэме Айчыннай вайны.

К $\frac{70403\text{-}206}{М\ 302(05)\text{-}76}$ 51-77 Бел 2

ГАЛИНА АНАТОЛЬЕВНА КОРЖАНЕВСКАЯ

МОЙ САД

На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак Л. М. Лобан. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Е. У. Дзмітрыенка.

АТ 21159. Здадзена ў набор 20/IV 1976 г. Падп. да друку 3/IX 1976 г. Тыраж 3000 экз. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,58. Ул.-выд. арк. 1,9. Зак. 217. Цана 19 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

